I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Студзень 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну




**У Гомелі жонка зарэзала мужа, у Жыткавічах сын забіў маці-пенсіянерку**
стар. 4

**Гомельскі аўтобус вынесла на тратуар, ёсць ахвяры сярод пешаходаў**
стар. 6

**У Гомелі адмянілі начныя навагоднія мерапрыемствы**
стар. 8

# Ігар Случак зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу


Ігар Случак

***Каардынатар ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу для ўдзелу ў мясцовых выбарах.***

У складзе актывістаў, якія будуць дапамагаць свайму кандыдату, вядомыя гамельчукі: лідар гурта “Gods Tower” Уладзіслаў Наважылаў, удзельнік украінскага шоў “Ікс-фактар” Саша Сацура.

Ігар Случак плануе ў межах сваёй кампаніі папулярызаваць беларускую мову:

- Ініцыятыўную групу, як і на мінулых выбарах, калі я балатаваўся ў парламент, я збіраў праз сацыяльныя сеткі. Людзі праз апытанкі ў сацыяльных сетках абралі раён Гомеля і акругу ў якіх я буду балатавацца. Яны ўвайшлі ў ініцыятыўную групу. Людзі зусім страцілі надзею на лепшае, таму ім трэба на ўласным прыкладзе паказаць, што ў Беларусі ёсць нармальныя людзі, што “зіма будзе доўгай”, але мы пераможам.

Ігар Случак вылучаецца ў дэпутаты шляхам збору подпісаў па Беларускай акрузе № 24 горада Гомеля. Для рэгістрацыі яму трэба сабраць 75 подпісаў.

*Беларускае Радыё Рацыя, Гомель*




# Ігар Случак: Подпісы выбарцаў можна збіраць і з дапамогай інтэрнэту

***Трэба шырэй выкарыстоўваць інтэрнэт у выбарчых кампаніях – так лічыць каардынатар ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак. У сёлетніх мясцовых выбарах ён спрабуе стаць кандыдатам у дэпутаты ў Гомельскі гарсавет і аблсавет. Гэтымі днямі ён збірае подпісы для вылучэнне, абыходзячы кватэры выбарцаў. Але варта паспрабаваць збіраць подпісы і з дапамогай інтэрнэту, кажа Ігар Случак.***

- Стараюся, як і на мінулых выбарах, задзейнічаць сацыяльныя сеткі, інтэрнэт. Яшчэ думаю таксама паспрабаваць такую ініцыятыву зрабіць, каб людзі прысылалі свае подпісы па пошце. Зраблю ў сацыяльных сетках такую вось аб'яву, каб людзі спампоўвалі падпісныя лісты і прысылалі свае подпісы. Не трэба і гэтую магчымасць адкідваць, нават проста з эксперыментальнага пункту погляду.

Ігар Случак зарэгістраваў ініцыятыўныя групы па вылучэнні яго кандыдатам у дэпутаты па Беларускай выбарчай акрузе № 24 у Гомельскі гарадскі савет дэпутатаў і па Студэнцкай выбарчай акрузе № 15 у Гомельскі абласны савет дэпутатаў. Амаль палову патрэбных подпісаў Случак ужо сабраў.

*Беларускае Радыё Рацыя*

# Грамадзянская ініцыятыва «Справаводства па-беларуску!» збірае інфармацыю з органаў улады аб колькасці пісьмовых зваротаў на беларускай мове

***Аўтар ідэі грамадзянскай ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!", гомельскі грамадскі актывіст Ігар Случак звярнуўся да ўсіх раённых, гарадскіх і абласных выканаўчых камітэтаў Беларусі з прапановай паведаміць, колькі пісьмовых зваротаў паступіла ў дадзеныя ўстановы ў 2013 годзе на рускай і беларускай мовах.***

Як паведаміў Случак БелаПАН, падобныя звароты накіроўваюцца напрыканцы кожнага каляндарнага году ўжо трэці год запар. Мэта іх даведацца, як паўздзейнічала на выкарыстанне беларускай мовы заканадаўчая гарантыя, па якой адказ на пісьмовы зварот павінен давацца на мове звароту.

«У 2011 годзе "Справаводства па-беларуску!" дамаглося, каб у законе "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" з'явілася норма, паводле якой адказ на пісьмовы зварот павінен давацца на мове звароту. У 2012 годзе да адміністрацыйных адзінак упершыню звярнуліся за моўнай статыстыкай па зваротах за 2011 год - год, калі закон яшчэ не меў адпаведных зменаў. Тады атрымалася, што толькі 0,54% усіх зваротаў былі на беларускай мове. Адпаведны зварот у па статыстыку за 2012 год, на жаль, паказаў, што сітуацыя практычна не змянілася - толькі 0,55% зваротаў былі па-беларуску», - адзначыў Случак.




Тым не менш без уліку адміністрацый вялікіх гарадоў у 2011 годзе было пададзена 4508 зваротаў, з іх 60 па-беларуску, ці 1,05% ад агульнай колькасці. У 2012 годзе без уліку адміністрацый вялікіх гарадоў было пададзена 2815 зваротаў, з іх па-беларуску было пададзена 40 зваротаў, ці 1,42%.

«Калі ўзяць для прыкладу некаторыя раёны Беларусі, то ў Пінскім раёне ў 2011 годзе быў 0,27% зваротаў па-беларуску, а ў 2012 ужо 1,36%, у Маларыцкім раёне ў 2011 годзе 0,36% зваротаў па-беларуску, а ў 2012 ужо 5,08%, у Іванаўскім – 1,86% і 2,36%, у Нясвіжскім – 1,05% і 1,86%, Кобрынскім – 0,4% і 1,52% у 2011 і 2012 годзе адпаведна. Гэта значыць, што хоць і па крыху. але нарматыўныя змены, што замацоўваюць статус беларускай мовы паволі, але падвышаюць яе выкарыстанне, - каментуе актывіст. - Звяртаючыся сёлета, на другі год пасля прыняцця адпаведных змен, мы прагназуем, што працэнт выкарыстання беларускай мовы павінен павысіцца больш істотна».

*by.belapan.by*

# "Справаводства па-беларуску!" і прэзідэнт.

Прэзідэнт Эстоніі Тоомас Хендрык Ільвес змясціў маю Калядную паштоўку ў кампаніі паштовак ад амбасадара Славакіі і былога прэзідэнта Літвы. Прыемнае суседства, улічваючы, што паштовак прэзідэнт атрымаў некалькі соцен. Як звычайна робіцца з афіцыйнымі віншаваннямі, выконваюцца яны на роднай мове, таму і я пісаў па-беларуску, хоць і валодаю эстонскай мовай. Таму ўдвая прыема, што маю паштоўку пераклалі (прытым разабраўшы мой почырк), бо як вынікае з подпісу да фотаздыска, прэзідэнт і яго Канцэлярыя даведаліся. што ў Беларусі я займаюся праблемамі захавання і пашырэння ўжывання беларускай мовы, хоць аб гэтым у віншаванні і намёку не было. А можа прэзідэнт пррости памятаў, хто я, бо не раз жа сустракаліся.

У любым выпадку гэта праява павагі не толькі да мяне, але і да ўсіх прыхільнікаў "Справаводства па-беларуску!"




Подпіс да фотаздымка на афіцыйнай старонцы прэзідэнта Эстоніі ў Фэйсбуку: Joulu- ja uusaastatervitused saatsid Slovaki suursaadik Juraj Podhorsky, Balti Spoon OU, Valgevene Keele Uhenduse esindaja Ihar Slutsak ning Valdas Adamkus (Leedu president 1998-2003 ja 2004-2009)

*Ігар Случак*

# «Усе беларусы патанулі», — Gods Tower прэзентаваў першы беларускамоўны трэк

***Культавы гомельскі гурт заўсёды акцэнтаваў сваю беларускасць, але ўпершыню сярод ангельскамоўных трэкаў каманды з'явілася песня, праспяваная на беларускай. «Людзі на балоце» — гэта пераклад кампазіцыі "People in the Swamp" з альбому "Steels says last", які выканала Ганна Аўчыннікава.***



*"Сапраўдны край маўчання —*
*Балотны край з насельніцтвам сваім.*
*Адмовіўшы змаганне,*
*Ці ж ты, як корч, не стаў зусім глухім?*

*Казаць далей не варта.*
*За «дабрабыт» прадаў свой дух дарма.*
*І час прамовіць праўду:*
*Жывы тапелец, шанцаў больш няма".*

Леслі Найф прадставіў новую песню на Тузіне Гітоў з песімістычным каментаром:

«У ёй вядзецца пра тое, што беларусаў як нацыі папросту не існуе. Калі гэта не так, можаце мяне абвергнуць. Пакуль што нацыяй можна назваць украінцаў — ані беларускія, ані тым больш расейцы нацыямі не з'яўляюцца. Грамадзянскай самасвядомасці не маюць, толькі бы жэрці было чаго.

Нельга адмаўляць праўду, трэба зрабіць так, каб яна сышла ў нябыццё. Пакуль што гэта робяць адзінкі. Нацыя? Саннікаў, Дашкевіч, Пазняк — гэта нацыя. Астатняе альбо распіл грантаў, альбо прыстасавальніцтва. У гэтай песні мы пра большасць кажам, а яны ўсе патанулі. А хочаце аптымізму — дык вось вам „Ляпіс". Калі ўсе пра аптымізм спяваць будуць, дык гэта будзе БТ».

*generation.by*

Ехаў я неяк у беларускім таксі. Кіроўца быў у выдатным настроі:

- Я люблю сваю працу, - кажа. - Сам сабе начальнік, ніхто мне не ўказ.

А я яму кажу:

- Тут павярніце налева..

## У Гомелі жонка зарэзала мужа,
### у Жыткавічах сын забіў маці-пенсіянерку

***18 студзеня была распачата справа па артыкуле 139 КК (забойства) у дачыненні да жыхаркі Гомеля 1972 года нараджэння.***

П'яная жанчына 17 студзеня падчас сваркі ўдарыла нажом у спіну мужа 1960 года нараджэння. Той памёр. Падазроная затрыманая.

У Жыткавічах 17 студзеня быў знойдзены труп пенсіянеркі 1932 года нараджэння са слядамі пабояў. Паводле папярэдняй інфармацыі, смерць наступіла ад тупой траўмы груднай клеткі, пераломаў рэбраў з пашкоджаннем лёгкага. Устаноўлена, што жанчыну збіў сын 1966 года нараджэння, распачата крымінальная справа.

*БелаПАН*




## Хуліган пашкодзіў у Гомелі пяць аўтамабіляў

***Выпадак адбыўся ў ноч на 8 студзеня на аўтастаянцы каля дома №8 па вуліцы Сухога.***

Міліцыянер, вяртаючыся дамоў пасля дзяжурства, звярнуў увагу на мужчыну, які на неахоўнай стаянцы наносіў пашкоджанні аўтамабілям.

Хулігана затрымалі. На месца здарэння была выклікана следча-аператыўная група.

33-гадовы мужчына паспеў пашкодзіць пяць аўтамабіляў, чым нанёс істотны ўрон аўтаўладальнікам.

Распачата справа па ч.1 арт. 339 КК (хуліганства).

*БелаПАН*

## Педафіл, які мацаў 9-гадовых дзяўчатак, асуджаны на 12 гадоў

***У Гомельскім раённым судзе вынесены прысуд 38-гадоваму мужчыну, які абвінавачваўся ў гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару, учыненых у дачыненні да заведама малалетніх, паведамляе БелТА.***

Вясной 2013 гады мужчына быў затрыманы ў Мінску па падазрэнні ў здзяйсненні злачынстваў да пяці дзяўчатак 9—11 гадоў на Гомельшчыне ў 2011 годзе.

Знаёмячыся з дзецьмі, ён заводзіў іх у пад'езды і мацаў пад адзеннем пад той падставай, што нібы ў яго знаёмага скралі грошы дзяўчаты вонкава падобныя.

Дзеці расказвалі бацькам пра выпадак, аднак выйсці на след злачынцы не ўдавалася досыць доўга.

Урэшце педафіла злавілі, суд пачаўся ў жніўні і праходзіў у закрытым пасяджэнні. Мужчына прызнаны вінаватым у гвалтоўных дзеяннях сэксуальнага характару і асуджаны на 12 гадоў пазбаўлення волі.

Гэта не першы выпадак у Гомелі. У гомельскім СІЗА 8 студзеня павесіўся іншы педафіл, 56-гадовы мужчына.

Падазраваны дзейнічаў на працягу трох гадоў ва ўрочышчы Чонкі Гомельскага раёна. Яго ахвярамі станавіліся дзеці, якія адпачывалі ў летніх лагерах, да якіх гамяльчанін прыязджаў па начах на сваім скутары. Ён пранікаў у летнікі і мацаў спячых дзяўчатак за палавыя органы.

Ахвярамі сталі 11 дзяўчынак ва ўзросце ад 9 да 14 гадоў.

*nn.by*

## У гомельскім СІЗА павесіўся серыйны педафіл

***56-гадовы мужчына абвінавачваўся ў здзяйсненні гвалтоўных дзеянняў сэксуальнага характару ў дачыненні да непаўналетніх і неўзабаве павінен быў выслухаць прысуд.***

Незадоўга да гэтага арыштаваны быў пераведзены ў памяшканне часовага знаходжання для наступнага канваявання на судовае пасяджэнне. Аднак раніцай 8 студзеня кантралёр СІЗА знайшоў мужчыну ў пятлі.

Падазраваны дзейнічаў на працягу трох гадоў ва ўрочышчы Чонкі Гомельскага раёна.

А яго ахвярамі станавіліся дзеці, якія адпачывалі ў летніх лагерах, да якіх гамяльчанін прыязджаў па начах на сваім скутэры. Пасля чаго пранікаў ў карпусы, заходзіў у пакоі і кратаў спячых дзяўчат за палавыя органы.

Паводле заяваў бацькоў пацярпелых пошукі педафіла вяліся даўно, аднак доўгі час у следства не было ні прыкметаў падазраванага, ні якіх-небудзь доказаў.

Яго ахвярамі сталі 11 дзяўчынак ва ўзросце ад 9 да 14 гадоў.

*Tut.by*



Квітнеюць людзі нашай краіны

## Ігар Случак: За апошнія два гады людзі сталі больш агрэсіўнымі

***Каардынатар ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак працягвае сваю выбарчую кампанію. Ён зарэгістраваў ініцыятыўныя групы па вылучэнні яго кандыдатам у дэпутаты па Беларускай выбарчай акрузе № 24 у Гомельскі гарадскі савет дэпутатаў і па Студэнцкай выбарчай акрузе № 15 у Гомельскі абласны савет дэпутатаў.***

На мінулым тыдні Ігар Случак збіраў подпісы за сваё вылучэнне.

- На мінулым тыдні я збіраў подпісы. Агулам за восем гадзін я сабраў асабіста 76 подпісаў. Магу параўнаць з мінулай выбарчай кампаніяй, калі я балатаваўся ў парламент, то, я б сказаў, што людзі сталі больш скардзіцца на жыццё, агрэсіўна рэагаваць, людзі разуверыліся ва ўсім.

Па-ранейшаму Ігар Случак максімальна выкарыстоўвае сацыяльныя сеткі, нават свае ініцыятыўныя групы ён утварыў з дапамогай інтэрнэту. У выбарчай кампаніі каардынатара ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” вырашалі паўдзельнічаць 18 чалавек. Подпісы за вылучэнне можна збіраць да 10 лютага.

*Беларускае Радыё Рацыя*

# Расследаванне пацвердзіла, што 32 школьнікі ў Мазыры атруціліся глазураванымі сыркамі

***Праўда, хто вінаваты, так і не высветлілі.***

19 і 20 верасня 2013 года ў бальніцу ў Мазыры звярнулася больш за 70 школьнікаў, пераважна пачатковых класаў. Дзецям паставілі першасны дыягназ «харчовае атручэнне». Па выніках экспертызы, у 32 школьнікаў дыягназ пацвердзіўся.

Следчым камітэтам па Гомельскай вобласці была заведзена крымінальная справа за парушэнне санітарна-эпідэмічных правіл.

«Падчас расследаванння ўстанавілі, што атручэнне выклікана ўжываннем тваролжных глазураваных сыркоў, вытворчасці ААТ «Бярозаўскі сыраробны камбінат» (Брэсцкая вобласць). У выніку лабараторных даследаванняў сыркоў пацверджаны факт атручэння стафілакокавым энтаратаксінам», — паведаміла прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Падчас праверкі на камбінаце парушэнняў санітрана-эпідэміялагічных правілаў не выявілі.

«З прадпрыемства да школьных харчаблокаў сыркі транспартаваліся ў некалькі этапаў: у Гомель на склад ААТ «ТВТ і Бярозка», затым у Мазыр на КВУП «Школьнае харчаванне», пасля — ва ўстановы адукацыі», — сказала Крываногава.

Дакладна высветліць, на якой стадыі транспарціроўкі альбо захоўвання глазураваных сыркоў былі дапушчаны парушэнні, што пацягнулі атручэнне, не атрымалася.

Крымінальная справа прыпынена. Следчым камітэтам вынесена прадстаўленне старшыні Мазырскага райвыканкама аб прыняцці захадаў абавязаць службовых асобаў і спецылістаў устаноў адукацыі, адказных за прыём прадуктаў, якія хутка псуюцца, пільна сачыць за тэмпературнымі рэжымі іх дастаўкі, адпаведнасцю транпарта, кантролем за таварным суседствам транспартуемых прадуктаў.

*nn.by*

> Гарачыя навіны.
> Міністэрства ахові здароўя забараніла чыпсы і газіроўку ў дзіцячых летніках. Як дзеці будуць піць піва без чыпсаў, міністр распавесці не змог.

# У Гомелі аўтобус вынесла на тратуар, ёсць ахвяры сярод пешаходаў

***У Гомелі аўтобус вынесла на тратуар, ёсць ахвяры сярод пешаходаў. ДТЗ адбылося каля 12-й гадзіны 16 студзеня на вуліцы Савецкай.***

Аўтобус МАЗ 17-га маршруту перасёк тратуар, як мяркуецца, падмяўшы пад сябе пешаходаў, знёс лаўку і урны ды ўрэзаўся ў драўляную скульптуру ў скверы.

На месцы аварыі працуюць тры разлікі МНС, мноства машын хуткіх. З-пад аўтобуса ратавальнікі дасталі пацярпелага пешахода, як мяркуецца, жанчыну, яна апынулася пад дном аўтобуса. Маладая жанчына загінула.

Як распавяла пасажыр аўтобуса Маргарыта Марозава, «каля сквера аўтобус стала рэзка заносіць, людзі ў салоне крычалі, біліся галовамі, хтосьці паваліўся».

Можна выказаць здагадку, што ў МАЗа падчас руху лопнула кола. На месцы здарэння абмяркоўваюць яшчэ адзін варыянт прычын трагедыі: у кіроўцы аўтобуса падчас руху здарыўся прыступ эпілепсіі.

Аўтобус падымаюць ратавальнікі, але пешаходаў пад ім больш няма. Паводле папярэдніх звестак, пацярпелі вадзіцель і адна з пасажырак аўтобуса.

*auto.tut.by*

# У Гомелі тралейбус з пасажырамі вынесла на тратуар

***Увечары 28 студзеня, каля 20.20, у Гомелі на Рэчыцкім праспекце адбылася аварыя з удзелам грамадскага транспарту: тралейбус 19- га маршруту, які ехаў у бок Сонечнай, сутыкнуўся з VW Polo.***

VW пад кіраваннем 39-гадовага вадзіцеля ехаў перад тралейбусам у другой паласе і стаў паварочваць направа. Кіроўца тралейбуса, які ехаў у першай паласе, не чакаў такога манеўру. Адбылося сутыкненне. Ад удару Polo адкінула на ўзбочыну, дзе ён урэзаўся ў апору дарожнага знака.

Тралейбус пасля ўдару вынесла на тратуар, дзе ў той момант, на шчасце, не было мінакоў.

*auto.tut.by*



# Міліцыя: Спецназавец з Мар'інай Горкі затрыманы ў Чэрвеньскім раёне пасля крадзяжу прадуктаў

***З затрыманым салдатам 5-й асобнай брыгады спецыяльнага прызначэння Узброеных сіл, выхадцам Мазыра 1992 нараджэння Аляксандрам Сушчыкам у Чэрвеньскім РАУС працуюць следчыя і прадстаўнікі вайсковай часткі. Высвятляюцца матывы і абставіны, па якіх малады чалавек ноччу 3 студзеня пакінуў размяшчэнне вайсковай часткі. Пра гэта БелаПАН паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязей УУС Мінскага аблвыканкама Аляксандр Данільчанка.***

Паводле яго інфармацыі, Сушчык быў затрыманы ў Чэрвеньскім раёне пасля 15 гадзін 8 студзеня пасля здзяйснення




крадзяжу адзення і прадуктаў харчавання ў доме ў вёсцы Скрабінка.

Сляды ўзлому выявіў гаспадар, які выклікаў міліцыю. Ён і два ўчастковыя інспектары на машынах праследавалі чалавека, які хаваўся ў лесе, і затрымалі яго. Затрыманым аказаўся салдат, які пакінуў вайсковую частку.

Ён быў без зброі. Пры затрыманні супраціву не аказваў, не выяўляў ніякай агрэсіі.

Пасля затрымання маладога чалавека даставілі ў Чэрвеньскі РАУС.

Нагадаем, Сушчык знік з вайсковай часткі ў Мар'інай Горцы 3 студзеня, і дагэтуль пра яго нічога не было вядома.

*nn.by*

# Магілёўскага чыноўніка пакаралі за расейскую мову

***Ігар Барысаў з Магілёва атрымаў адказ з «Магілёўаблаўтатрансу». Зь ліста вынікае, што вядучы інжынэр прадпрыемства Аржанькаў прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасьці. Яму абвешчаная заўвага за тое, што той на беларускамоўны зварот, дасланы Ігарам Барысавым, даў адказ на расейскай мове.***

Два месяцы таму Ігар Барысаў даслаў зварот у «Магілёўаблаўтатранс» з нагоды таго, што ў Магілёве кіроўцы некалькіх аўтобусаў грамадзкіх маршрутаў мелі сьцяжкі Расеі на лабавым шкле свайго транспарту. У звароце ўтрымлівалася патрабаваньне прыбраць сьцяжкі.

«Адказ прыйшоў на расейскай мове. Аднак ён быў станоўчы, у ім сьцьвярджалася, што з кіроўцамі праведзеныя прафіляктычныя размовы, ім загадана прыбраць ня толькі сьцяжкі, але таксама эмблемы і вымпелы. А ў выпадку, калі яны не пагодзяцца гэта зрабіць, іх абяцалі прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасьці. Але




мне не спадабалася тое, што я зьвяртаўся па-беларуску, а адказ прыйшоў на расейскай мове. Я хацеў ісьці ў суд. Але мясцовыя праваабаронцы параілі зьвярнуцца спачатку ў вышэйстаячую інстанцыю. Тады я напісаў два лісты — у Міністэрства транспарту і ў Магілёўскі аблвыканкам. У лістах я зьвяртаў увагу на тое, што на беларускамоўны ліст прыйшоў расейскамоўны адказ», — кажа Ігар Барысаў.

Ён адзначыў, што задаволены вынікам свайго звароту:

«Думаю, што наступным разам, калі прыйдзе зварот на беларускай мове, то гэтая службовая асоба будзе вымушаная адказваць па-беларуску, калі ня хоча быць пакаранай рублём. А наступны зварот ужо не за гарамі — я зноў стаў заўважаць расейскую сымболіку на лабавым шкле грамадзкага транспарту. Будзем такім чынам вучыць чыноўнікаў беларускай мове».

*svaboda.org*

# Ігар Случак дзеліцца віншаваннем, якое атрымаў ад “Нёмана”

***Яшчэ ў пачатку футбольнага сезону праваабаронца Ігар Случак накіроўваў ліст у адрас футбольнага клуба “Нёман” з пытаннем аб выкарыстанні беларускімі клубамі беларускай мовы. Гарадзенская каманда не засталася ў баку і адказала актывісту. А цяпер – павіншавала са святамі!***



Узгадаем уражанні Случака ад атрыманага адказу: “Змястоўны, добразычлівы адказ прыйшоў з ФК “Нёман” па пытанні беларускай мовы. Быў дадзены адказ па кожнаму пытанню, хоць пакуль да рэалізацыі пажаданняў, як падаецца, далёка. […] Адным словам, нават калі гэта і адпіска, але напісана пісьменна і з густам, да якой цяжка наўпрост падкапацца. Таму ж ФК “Гомель” трэба павучыцца працы ў галіне камунікацыі з грамадскасцю, бо там спачатку пачалі прыгожа і тлуста мёдам мазаць, а ў выніку скаціліся да фарсу і гістэрыкі”.

Больш пра адказ “Нёмана” Ігару Случаку чытайце тут:

Зусім нядаўна спадару Случаку прыйшло навагодняе віншаванне ад клуба. Гэтым віншаваннем ён вырашыў падзяліцца з намі. “Лічу, што гэта не толькі прыемны знак увагі да мяне, але і да ўсіх прыхільнікаў “Справаводства па-беларуску!”. Бо якраз з перапіскі наконт пашырэння ўжывання беларускай мовы ў клубе нашы стасункі з “Нёманам” і пачаліся. І, як бачна, клуб словы на вецер не кідае. Сваю віншавальную паштоўку прэс-служба выканала па-беларуску. Ну і за “спадара” на канверце асобная ўдзячнасць. Посьпехаў ФК “Нёман” у будучым чэмпіянаце і медалёў, зразумела!” Прэс-аташэ “Нёмана” Пётр Карнаўх даў невялікі каментар з гэтай нагоды: “Беларуская мова – наша родная мова. Таму было б лагічна, як можна больш яе ўжываць. Аднак варта памятаць, што асноўная частка насельніцтва размаўляе на рускай мове. У мінулым годзе мы завялі афіцыйны канал на YouTube – ён на беларускай мове. Рабілі ўсе застаўкі для інтэрнэт-трансляцыі таксама на беларускай мове. Магу сказаць адназначна – мы пастараемся павялічыць яе прысутнасць. Гродна не адразу будаваўся…”

*generation.by*

## У Гомелі адмянілі начныя навагоднія мерапрыемствы, у сувязі «са зваротамі грамадзян»

***У Гомелі адмяняюцца святочныя мерапрыемствы ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня, паведамляе афіцыйны сайт Гомельскага гарвыканкама.***

Паводле інфармацыі аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі, начныя мерапрыемствы адмяняюцца «ў сувязі са зваротамі, што паступілі ад грамадзян».

Газета «Гомельская праўда» са спасылкай на мясцовыя ўлады ўдакладняе: гараджане скардзіліся на тое, што гучная музыка перашкаджае ім спаць.

Характэрна, што такія звароты ў гарвыканкам паступалі не толькі ад жыхароў дамоў, размешчаных непадалёк ад галоўнай ёлкі Гомеля, але і з іншых раёнаў абласнога цэнтра.

Гарвыканкам паведамляе, што навагодняя віншавальная праграма будзе паказана 1 студзеня.

*БелаПАН*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі студзень 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2013”

Надрукавана на паперовай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva
**Вольга Пыхава:** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA